■ НАШ РЭГІЁН

# Турэц–Баяры

## Край цагельшчыкаў, лясоў, самагону...

Вакол мястэчка шмат вадаёмаў (натуральных і штучных), можа, таму гарачая вада тут ёсць толькі ўзімку. Не трэба тлумачыць пра "цудоўнае" жыццё жыхароў у летнія дзянькі, асабліва тых, якія маюць малых дзяцей.

Праблемы пачаліся тады, калі мясцовая цагельня перастала працаваць (параўнайце ўсё напісанае з сітуацыяй у Вілейцы, пра якую "РГ" пісала даўней). Кацельню, што была на балансе прадпрыемства, перадалі маладзечанскаму "Камунальніку". Атрымалася, як заўсёды: ні вады, ні вінаватых. Хаця пасялкоўцы скардзіліся ў райвыканком, вада ў іх кранах ад гэтага цяплейшая не стала.

Мала таго, у амаль двухтысячным пасёлку няма ніводнай калонкі. Бываюць выпадкі, што рвуцца трубы і цэлыя дамы застаюцца без вады, звычайна, не на дзень–два.

### Турэц–Баярскія даўгабуды

Дзеля кампенсацыі, напэўна, вырашылі са 2 гады таму пабудаваць тут лазню. Будавалі–будавалі, а мінулай вясной энтузіязм (ці грошы) скончыўся. Цяпер ані лазні, ані гарачай вады.

Пасля вырашылі пабудаваць царкву. Калісьці прыязджаў бацюшка, асвяцілі месца, храм "ахрысцілі" (чамусьці, далі імя Аляксандра Неўскага). Ахвяраванняў вяскоўцаў хапіла толькі на драўляны зруб. На тым усё і скончылася. Цяпер сюды перасталі хадзіць і бабулькі.

Вось і ўсё, што пабудавана ў Турэц–Баярах за апошні час. Ці не ўсё, што мясцовыя могуць прыпомніць за трыццацігадовую гісторыю мястэчка.

### Як усё пачыналася

Спачатку было слова – рашэнне аб будаўніцтве згаданай цагельні. Як бывае, сюды з'язджаліся людзі: падзарабіць, атрымаць жыллё. Тут і асядалі. З'явіліся дзіцячы садок, школа. Мястэчка імкліва будавалася. А завод у сярэдзіне 90–х перастаў існаваць. З таго часу жыццё рухаецца па інерцыі, і ў Турэц–Баяры на пастаяннае месца жыхарства нікога асабліва не залучыш.

### Мясцовыя адметнасці

Адно з нямногіх месцаў, дзе можна падзарабіць, – тэлевышка, 110-метровая жалезная канструкцыя. Кажуць, з гэтай вышыні відаць не толькі Маладзечна са Смаргонню, але і Вілейку з Валожынам. Хаця, каб там працаваць, трэба мець здароўе касманаўта (асабліва пагаршаецца зрок) і не баяцца вышыні (часам даводзіцца залазіць на самы верх).

З асаблівасцяў мясцовай архітэктуры можна вызначыць дом №6. Цікавы ён тым, што пры будаўніцтве ніхто не прадугледзеў наяўнасць балконаў. Усе навічкі, у першую чаргу, сюды і засяляюцца, крыху пажывуць – і імкнуцца хутчэй займець сваю хаціну. Таму дом гэты празвалі гасцініцай, бо ў ім памянялася не адно пакаленне пасяленцаў.

Ёсць у мястэчку 2 суперкатэджы. Інакш, як замкі, іх тут і не называюць. Падобныя, як блізняты, пачалі яны ўзводзіцца ў смутны час – напачатку 90-х. Імёны ўладальнікаў у пасёлку ці не ведаюць, ці не гавораць. Ужо даўно катэджы стаяць недабудаваныя: уладальнікі тыя ці то затаіліся, ці то зніклі. А можа, недзе і "сядзяць" – такія версіі даюць жыхары Турэц-Баяраў.

### Чароўны водар

З усіх бакоў мястэчка абкружаюць лясы. Акрамя таго, што тут добра расці грыбам і ягадам, спрыяльныя ўмовы створаныя прыродай для самагонаварэння. Ды і калі зойдзеш у той ці іншы дом, можна адчуць пах брагі.

### Цяперашняя моладзь дэградзіруе

Так лічыць настаўніца Людміла Чарвінская. Яна і цяпер імкнецца кантактаваць са сваімі былымі вучнямі. Настаўніца прыйшла да высновы, што ў гэтай з'яве сваю ролю адыграла старэйшае пакаленне: у мясцовы клуб на дыскатэкі пускаюць толькі школьнікаў. Таму добра, калі пасля заканчэння школы нехта здолее паступіць вучыцца і з'едзе адсюль ці знойдзе работу ў Маладзечне. А так, моладзь співаецца. П'яных юнакоў, а бывае, і дзяўчат можна заўважыць па выхадных ужо ў дзве-тры гадзіны дня.

– А я, напэўна, калі і з'еду куды, настальгія замучае, – кажа Анатоль Стасяловіч.

Ён жыве тут з самага дзяцінства. Цяпер, праўда, працуе ў Маладзечне. Пакідаць свае Турэц–Баяры надоўга не жадае, хаця і марыць паехаць куды–небудзь на заработкі.

У размовах з жыхарамі заўважыў непрыемную тэндэнцыю: людзі не бачаць у мястэчку перспектыву. Хаця мясцовыя – не зломкі і працаваць могуць, але ў думках шляхі да свайго шчасця бачаць па-за межамі Турэц-Баяраў. А зрывацца кудысьці ахвоты няма. Тут ужо пусцілі свае карані. Жыхары сходзяцца ў думцы, якую агучыў мясцовы прадпрымальнік: няма тут парадку; я працаваў бы не ў Германіі, а тут, але не ведаю, што мне рабіць у Турэц–Баярах. У мястэчку шмат работы, але няма каму ўсім гэтым займацца.

А можа, у каго–небудзь калісьці і дойдуць рукі. Пакуль яшчэ не позна?

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Ля ўвахода ў вёску.



На рыбалку.



Анатоль Стасяловіч пакідаць Турэц-Баяры не жадае.



Дом-гасцініца №6.



Калісьці быў магазін.

Адзін з недабудаваных «замкаў».

У кіламетры ад вёскі можна назіраць вадаспад.



Царква імя Аляксандра Неўскага.

На «прыколе».



Цагельня даўно не працуе.



Бульдозер ля лазні ...

